

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.*

# Наша Слова.pdf



Трэці год выдання № 14 (118) 3 красавіка 2024 г.

# З Вялікаднем, шаноўныя беларусы!





У нядзелю 31 сакавіка, на світанні, пад радасныя гукі званоў і велікодных спеваў у цэнтры Менска, на вуліцах, прылеглых да катэдральнага касцёла Найсвяцейшага Імя Марыі, прайшла Рэзурэкцыйная працэсія.

Шэсце соцень вернікаў з Найсвяцейшым Сакрамэнтам у велікодную раніцу ўзначаліў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. У працэсіі ўзяў удзел таксама Генеральны вікарый Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі.



*Эдуард Акулін*

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

Хрыстос уваскрос, -
як ніводзін з багоў!
Хрыстос уваскрос, -
як зямля напрадвесні!
Хрыстос уваскрос, -
каб вярнуць нам Любоў
і Веру, што й мы,
як і Ён, уваскрэснем!
З пакутаў і слёз,
з укрыжованых кроз:
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!
*31 сакавіка 2024 г. 7:30.*





Іерархі і святары па чарзе неслі Цела Хрыста ў манстранцыі, што з'яўляецца старадаўнім велікодным звычаем у Каталіцкім Касцёле.

Пасля працэсіі ў галоўнай каталіцкай святыні сталіцы адбылася святая Імша, цэлебрацыю якой узначаліў арцыбісуп Станеўскі. Падчас яе да сабраных у архікатэдры вернікаў духоўна далучыліся тысячы тых, хто слухаў яе трансляцыю па радыё або глядзеў яе анлайн у інтэрнэце.

***Catholic.by.***





# Пастырскае пасланне арцыбіскупа Юзафа Станеўскага на Вялікдзень

**Арцыбіскуп Юзаф Станеўскі**
**Мітрапаліт Менска-Магілёўскі**

**ПАСХА - УВАСКРАСЕННЕ ХРЫСТА**

Пастырскае пасланне на Вялікдзень 2024 года

***Езус Збаўца уваскрос, аллелюя!***
***Мір і радасць нам прынёс, аллелюя!***
*(З песні "Езус Збаўца уваскрос…")*

**Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

**1.** Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры! Вітаю вас гэтымі словамі велікоднага закліку, які ў гэтыя святочныя дні гучыць у каталіцкіх святынях свету.

У слове "сапраўды" заключана пацвярджэнне праўды пра факт уваскрасення нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста. Без гэтай праўды, якая пацверджана гістарычнымі фактамі, не было б нашага збаўлення, без уваскрасення Езуса не было б нашага ўваскрашэння. У гэтай ісціне знаходзіцца фундамент нашай веры, веры ўсіх хрысціянаў. Апостал Павел падкрэслівае гэта ў сваім Пасланні да Карынцянаў: "А калі Хрыстус не ўваскрос, то марнае і прапаведаванне нашае, і вера вашая марная" (1 Кар 15, 14).

Уваскрасенне Хрыста, якое мы сёння святкуем, гэта пераход Хрыста з душою і целам са стану смерці ў іншае жыццё. І гэтае свята адкрывае нам цудоўную перспектыву нашага канчатковага існавання. Чалавек часта задае сабе пытанне пра сэнс свайго існавання, і ўваскрасенне Хрыста - адказ на гэтае пытанне. Святы Ян Павел II падкрэсліваў: "Хрыстус уваскрос, каб чалавек знайшоў сапраўдны сэнс свайго існавання, каб чалавек жыў у поўні: каб чалавек жыў з Богам і ў Богу". Пан не чыніць нас нявольнікамі, менавіта Ён стварыў нас свабоднымі. Ён ні ў чым не змушае нас, Бог чакае ад нас, хрысціянаў, такога жыцця, каб мы былі соллю, якая надае смак, каб былі такім святлом, у якім людзі ўбачаць добрую вестку пра бязмежную Божую любоў і Ягоную міласэрнасць.

Паводле выказвання святых, "хрысціянін з'яўляецца соллю і святлом свету не таму, што перамагае ці трыумфуе, а таму, што дае сведчанне Божай любові; і ён не будзе соллю, калі не мае сілы, каб "саліць"; ён не будзе святлом, калі сваім прыкладам і навучаннем не будзе сведчыць пра Хрыста-Збаўцу, калі страціць тое, што з'яўляецца сэнсам ягонага жыцця".

**2.** Тое, што ўчыніў для нас Езус дзве тысячы гадоў



таму, і сёння становіцца для нас рэальным. Ён ёсць сярод нас, мы перажываем таямніцу пустой магілы, акунаемся ў сведчанні Яго вучняў, што сапраўды Хрыстус быў Тым, хто перамог смерць. Наш Пан і Збаўца, ахвяруючыся дзеля нас, адкрыў нам цудоўную перспектыву жыцця, якое ніколі не скончыцца.

Хрыстус уваскрос не для таго, каб нам даць добры прыклад, але Езус у сваім целе як бы прадстаўляе пэўны шлях, якім Ён хоча весці ўсіх тых, хто Яму даверыцца. Хрыстус перамог смерць, Ён вярнуўся з магілы не ў выглядзе нейкага прывіду, але ў рэальным сваім абліччы. Калі Езус прыйшоў да сваіх вучняў, то паказаў ім сваё цела, на якім засталіся раны. Адначасова Ён сказаў апосталам: дакраніцеся да Мяне, пераканайцеся, што гэта насамрэч Я, а не якісьці прывід ці дух. Хрыстус паводзіў сябе як жывы чалавек, бо Ён сапраўды ўваскрос.

**3.** Браты і сёстры, для нас свята Вялікадня не з'яўляецца нейкім пераходам з зімовай спячкі да веснавога абуджэння, не з'яўляецца толькі і выключна святам нашага духоўнага адраджэння, але з'яўляецца прадвесцем таго, што з намі станецца ў рэальнасці. Без уваскрасення Езуса Хрыста не было б гарантыі нашага ўваскрашэння. Уваскрасенне Хрыста - гэта самы важны цуд у гісторыі чалавецтва і гэта падмурак нашай веры. У "Апостальскім сімвале веры" мы паўтараем: веру ў жыццё вечнае, уваскрашэнне цела. Такім чынам, Вялікдзень - гэта свята веры. Езус сказаў: "Я - уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць. А кожны, хто верыць у Мяне, не памрэ ніколі" (Ян 11, 25-26).

**4.** Мае дарагія, каб убачыць уваскрослага Езуса, неабходна пачуццё веры. Мы запрошаны адсунуць




камень і пакінуць магілу нашых грахоў, узняцца над знешнім, пачуццёвым, дакранальным і бачным, гэта значыць над тымі знакамі, якія паглынаюць нашую ўвагу, энергію, сілы і засланяюць духоўную рэчаіснасць, засланяюць Езуса. Езус аб'явіцца нам, калі мы паверым і даверымся Яму. Гэта станецца тады, калі мы, як Пётр, адмовімся ад разлікаў, самаўпэўненасці, пыхі і станем перад Ім у праўдзе, прызнаючыся ў сваіх грахах. Давайце, як апостал Ян, станем перад Богам у пакоры, малітве і сузіранні, адкрытыя на Яго таямніцу. Давайце будзем мець такую цярплівасць і адданую любоў, як у святой Марыі Магдалены.

**5.** Вялікдзень - гэта свята надзеі. Хрыстус першым уваскрос з мёртвых. Уваскрэснем і мы, бо мы не з'яўляемся толькі звычайнымі біялагічнымі істотамі, існаванне якіх заканчваецца ў момант смерці. Мы - людзі, у якіх адлюстроўваецца духоўны вобраз і прыгажосць Бога. Бог несмяротны. Мы таксама маем удзел у несмяротнасці. Усё, што мы ствараем на зямлі, - культуру, дабро, прыгажосць, любоў, і тое, што для нас каштоўнае і важнае, не заканчваецца з момантам смерці. Мы надалей жывем на зямлі праз іншых, праз нашчадкаў ці людзей добрай волі, якія гэтую добрую волю рэалізуюць. Уваскрасенне - гэта жыццё вечнае. Таму адзін тэолаг назваў Вялікдзень "рыўком да жыцця".

**6.** Вялікдзень - гэта таксама свята любові. Святы Павел у прыгожым гімне пра любоў напісаў, што на самай справе ў рэшце рэшт застанецца толькі любоў (гл. 1 Кар 13). Пасля ўваскрасення вера і надзея больш не будуць патрэбныя. Застанецца толькі любоў. У нашым зямным жыцці мы перажываем цярпенні і цяжкасці. Мы плануем, ствараем, будуем лепшае жыццё. Аднак мы ўсведамляем, што ўсё гэта нетрывалае, прамінальнае. Сёння, пры развітых тэхналогіях, калі яны не выкарыстоўваюцца дзеля дабра чалавецтва, дастаткова некалькіх імгненняў, каб знішчыць дасягненні і намаганні цэлых пакаленняў.

Мы бачым, якой знішчальнай бывае таксама стыхія прыроды, калі падчас землятрусаў, цунамі, паводак гіне не толькі ўсё матэрыяльнае, але самае галоўнае - гінуць людзі. Крохкасць нашага існавання паказала і нядаўняя пандэмія, а таксама ўзброенныя канфлікты і праявы агрэсіі. Заахвочваю ўсіх маліцца за ахвяр войнаў і тэрарыстычных актаў, а таксама эпідэмій. Просім, каб міласэрны Бог прыняў нявінную ахвяру загінулых і адарыў іх вечным жыццём у Валадарстве Неба, а параненых і церпячых, а таксама тых, хто знаходзіцца ў жалобе, няхай Уваскрослы Пан умацуе сваёй ласкай у цярпенні.

**7.** Уваскрасенне Езуса Хрыста нараджае ў нас надзею: нават калі ўсё, здавалася б, траціць сэнс, застанецца вечнасць любові ў Богу. Застанецца пачуццё і ўпэўненасць, што любоў мацнейшая за смерць. Езус прыйшоў на гэты свет, каб адкрыць нам паўсюдную Божую любоў. Бог любіць усіх людзей і ад кожнага чакае любові, нягледзячы на нашыя слабасці, характар, умовы жыцця і прафесію. Праз усё, што мы перажываем, што здараецца ў нашым жыцці, праз цярпенні і радасці, праз праблемы і канфлікты, якія маюць месца ў кожную гістарычную эпоху, Бог кліча нас, каб мы выконвалі новую запаведзь любові, якую даў нам Езус Хрыстус, каб насамрэч палюбілі Бога і бліжняга.

**8.** Як дасягнуць гэтай любові? Бог даў нам карысныя "рэкамендацыі"- 10 запаведзяў. Святы Ян Залатавусны, калі ў яго спыталі, як быць шчаслівым, параіў: "Хочаш быць шчаслівым - не грашы, калі зграшыў - пакайся, не хочаш каяцца - тады будзь гатовы да цярпенняў". Чалавек знойдзе збаўленне толькі пры ўмове, што будзе наследаваць Хрыста, слухаць Яго слова і выконваць яго, імкнуцца яднацца з Езусам праз шчырае пакаянне і навяртанне.

**9.** Апошнім часам у інтэрнэце веруючая моладзь распаўсюджвае заклік-параду: "Не кажы Богу, што ў цябе вялікая праблема. Скажы сваёй праблеме, што ў цябе вялікі Бог!" Гэта значыць, трэба больш верыць у Божы Провід, у Божае кіраўніцтва і апеку, а не баяцца праблем і выклікаў.

Сваім уваскрасеннем Езус прынёс усім людзям спакой. Евангелле ад святога Яна перадае абяцанне Хрыста: "Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам. Не так, як дае свет, Я вам даю. Няхай не трывожыцца сэрца вашае і не баіцца" (Ян 14, 27). У гэты ўрачысты дзень зноў гучыць пажаданне Хрыста: Мір вам! Мір людзям ва ўсім свеце! Хрыстус сапраўды ўваскрос і нясе мір усім!

**9.** Браты і сёстры. На Вялікдзень, па традыцыі, мы складаем адзін аднаму святочныя пажаданні радасных святаў. Жадаю вам, каб вашай штодзённай радасцю быў уваскрослы Хрыстус.

Заклікаю ўсіх нас словамі малітвы Вялікага Папы Яна Паўла II, каб мы імкнуліся зразумець і цаніць велізарную ласку ўваскрасення Хрыста:

*"Без уваскрасення перамагло б зло,*
*без уваскрасення цемра застаецца без світанку,*
*без уваскрасення смерць перамагае,*
*без уваскрасення сэнс жыцця*
*застаецца таямніцаю…"*

Дарагія браты і сёстры! Жадаю ўсім нам абудзіцца да новага жыцця ва ўваскрослым Хрысце! Няхай радаснае і ўзнёслае "Аллелюя" гучыць у нашых сэрцах.

*Слёзы з твару выцірайце,*
*праганяйце з сэрцаў грэх.*
*Песні радасна спявайце,*
*хай гучыць вясёлы смех.*
*Уваскрос Пан над Панамі,*
*Ён жыве, Ён разам з намі.*

Давяраю ўсіх вас Марыі, Маці ўваскрослага Пана, і благаслаўляю: у Імя Айца,+ і Сына, і Духа Святога. Амэн.
У Імя Айца, † і Сына, і Духа Святога. Амэн.

Арцыбіскуп Юзаф Станеўскі,
Мітрапаліт Менска-Магілёўскі.

*catholik.by.*

# Лідскі хлебазавод пад Вялікдзень

По традыцыі напярэдадні Вялікадня на Лідскім хлебазаводзе высвянцілі святочную прадукцыю. Сёлета да свята Вялікдня прадпрыемства спякло яе каля шасці тон. У асартыменце - як ужо стаўшыя традыцыйнымі вырабы (булкі, пернікі, цукровыя слодычы ў форме яйкаў, заправа з тварагом і макам), так і навінкі.









Абрад асвячэння правёў ксёндз - канонік Юры Бяганскі. Ён памаліўся і акрапіў прадукцыю Лідскага хлебазавода, якая пайшла да сваіх пакупнікоў на прылаўкі крамаў.

*lidanews.by.*

# Белпошта выпусціла маркі, прысвечаныя Вялікадню

Белпошта выпусціла віншавальныя маркі да Вялікадня. Іх можна набыць у паштовых аддзяленнях, калі вы збіраецеся адправіць каму-небудзь паштоўку ці ліст.

***Паводле СМІ.***







# КАСТУСЮ ЦВІРКУ - 90

Кастусь Цвірка нарадзіўся 28 сакавіка 1934 года ў вёсцы Зялёная Дуброва Старадарожскага раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958). У 1958-1959 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Труханавіцкай сярэдняй школе Капыльскага раёна. Быў літсупрацоўнікам раённай газеты "Рудзенская праўда", рэдактарам на Беларускім радыё, старшым метадыстам рэспубліканскага Дома народнай творчасці, старшым інспектарам Упраўлення па распаўсюджванні друку Міністэрства сувязі БССР. У 1972 г. скончыў аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і з таго часу - навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. З 1981 г. - старшы рэдактар выдавецтва "Юнацтва", з 1984 г. - рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Полымя", з 1996 г. - кіраўнік і галоўны рэдактар выдавецтва "Беларускі кнігазбор". Кандыдат гістарычных навук. Член СП СССР з 1961 г.

Першы артыкул у рэспубліканскім друку з'явіўся ў 1951 г., першы верш - у 1953 г. Аўтар зборнікаў вершаў "Такія сэрцы ў нас" (1959), "Бягуць раўчукі" (1962), "Чарназём" (1967), "Каласы" (1975), "Сцежка дадому" (1980), "Рэха дарог" (1982), "Хат вячысты дар" (вершы і паэма, 1982), "Зялёная Дуброва" (1987), "Лодка долі тваёй" (1988), а таксама кніжак вершаў і казак для дзяцей "Зайчыкаў хлеб" (1966), "Дарункі лесу" (1969), "Як Алесь згубіўся ў лесе" (1986), "Добрыя суседзі" (1988).

Выйшлі мастацкія нарысы, звязаныя з літаратурнымі мясцінамі Беларусі, - "Дарога ў сто год" (1974), "Той курган векавечны" (1985), а таксама манаграфія "Слова пра Сыракомлю" (1975).



Прыняў удзел у напісанні кнігі "Беларуская фалькларыстыка эпохі феадалізму" (1989) (з. Г. Каханоўскім, Л. Малаш, 1989). Складальнік тома "Вяселле. Абрад" (1978), кнігі ўспамінаў пра З. Бядулю (з Я. Садоўскім, 1988), зборніка твораў Я. Чачота "Наваградскі замак" (1989), зборніка "Філаматы і філарэты" (1998), пераклаў 24 балады з цыклу "Спевы пра даўніх ліцвінаў" Яна



Чачота..

Выступае ў друку з артыкуламі па культуры мовы.

**Мова зямлі маёй! Мова бацькаўшчыны!..**

Мова зямлі маёй! Мова бацькаўшчыны!
Пачую твой гук на чужой зямлі,
І - бумкае чмель у гародчыку басам,
Трубяць за возерам жураўлі.
У хаце бярвеннай, ля печы - далёкая -
Ходзіць мацерына чапяла,
На плоце певень - жар-птушка - галёкае,
Збудзіўшыся, бзыкае ў шыбе пчала.
Дарма мне казалі, што ў пальмавым краі
Я нават успомніць цябе не змагу,
Што іншая песня - мелодыяй раю -
З душы маёй выцесніць просты твой гук.
Мова мая!
Для мане ты заўсёды -
Сонца вясновага цёплы прамень,
Дзіва ляснога поўныя соты,
Рэчка, што асвяжае ў сухмень.

*Кастусь Цвірка.*





*Лаўрэш Леанід*

# Першыя аўтамабілі на Лідчыне

Першае зафіксаванае ў прэсе здарэнне з удзелам аўтамабіля на гістарычнай Лідчыне адбылося 4 кастрычніка 1911 г.: *"…каля 17-00 пані Чачот ехала на брычцы па дарозе Ліда - Вільня. Не даязджаючы Беняконяў, конь быў напалоханы аўтамабілем пана Вагнера з Вялікіх Салечнікаў, які абагнаў брычку без папераджальнага сігналу. Конь кінуўся ў бок, перавярнуў брычку, і пані Чачот была выкінута з яе на дарогу. Конь з брычкай без гаспадыні памчаўся ў бок мястэчка, дзе і быў злоўлены. Пані Чачот атрымала цялесныя пашкоджанні і не магла сама падняцца з зямлі, аднак кіроўца і пасажыры аўтамабіля не звярнулі на яе ўвагі"*, - пісала газета "Кур'ер Віленскі".

Першае зафіксаванае смяротнае здарэнне з удзелам аўтамабіля адбылося ўзімку 1918 г., газета "Голос" паведаміла, што па дарозе Ліда - Гародня, каля Новага Двара, *"конь, спужаны аўтамабілем, панёс і разбіў сані аб тэлеграфны слуп. Міліцыянт Якабсан зваліўся з санак і папаў пад аўтамабіль, каторы яго задушыў на смерць"*.

Першым вядомым мне аўтаўладальнікам на гістарычнай Лідчыне быў уладальнік маёнтка Гурнофель Альфрэд Бразоўскі. Вельмі цікава пра яго пісаў сын уладальніка Ішчалны Андрэй Брахоцкі: *"У мае маладыя гады гаспадаром маёнтка быў пан Альфрэд Бразоўскі - стары кавалер. Ездзіў чацвёркай коней, зімой заўсёды са званочкамі, бываў паўсюдна, не прапускаў нічыіх суседскіх імянін і нават у сталым веку сябраваў з так званай "залатой моладдзю". Меў яшчэ нейкі іншы маёнтак у іншым павеце і яшчэ* ***перад Першай сусветнай вайной купіў сабе аўтамабіль - хоць і ўжываны, але гэта быў першы аўтамабіль у Лідскім павеце****. Усе балі ў акрузе былі яго, і часта пасля балю брычка Бразоўскага начавала ў канаве.* ***Расказвалі, што для аўтамабіля трымаў двух шафёраў, а шыны ездзіў мяняць за 100 кіламетраў****. У часы Першай сусветнай вайны ажаніўся з паннай Янкоўскай і адразу пасля вайны памёр, пакінуўшы адну дачку.*

*Хадзіла пра яго шмат анекдотаў, якія дасціпныя сябры ахвотна расказвалі. Ён з цікавасцю выслухваў анекдоты пра сябе і сам з іх першы смяяўся. У маёй памяці засталося некалькі такіх гісторый. Расказвалі, што ў маладосці ён некалькі разоў рабіў прапановы рукі і сэрца, але безвынікова. Адным разам у кавярні яму і яго пасіі падалі дзве філіжанкі кавы з вяршкамі ў адным гаршчочку з вушкам. Пан Альфрэд звярнуўся да панны з пытаннем, ці хацела б яна мець з ім адзін агульны гаршчок на ўсё жыццё. Тая адмовілася.*

*Іншым разам нейкі дасціпнік запэўніў пана Альфрэда, што ведае такі фокус: поўная шклянка вады будзе перавернута над яго галавой, а ён пры гэтым застанецца сухі. Пан Альфрэд сказаў, што гэта немагчыма. Тады жартаўнік прапанаваў паспрачацца на 100 рублёў - вялікія ў той час грошы. Памятаю, як наш улюбёны фурман, стары Юзаф, купіў сабе добрыя скураныя боты за 3 рублі. Пан Бразоўскі быў ашчадны і прапанаваў спрэчку на 1 рубель. Было гэта ў рэстаране, афіцыянт прынёс шклянку вады, якую штукар на вачах усяго рэстарана выліў на галаву пана Альфрэда. Пасля чаго, здзівіўшыся, сказаў, што фокус не ўдаўся, і заплаціў 1 рубель. На гэтым справа да задавальнення абодвух бакоў скончылася"*.

Вось такім чалавекам быў першы шчаслівы ўладальнік аўтамабіля на Лідчыне.

З-за невялікай колькасці механічнага транспарту аварыі з ім у 1920-х гг. здараліся не часта. Але аўтамабілі і матацыклы ўжо пачалі забіваць і калечыць людзей. Напрыклад, 2 ліпеня 1926 г. за чатыры кіламетры ад Ліды ў бок Вільні, разбіўся аўтамабіль памежнай аховы, паручнік Вяндлінскі загінуў, а кіроўца аўтамабіля атрымаў цяжкія раненні. І з часам падобных выпадкаў станавілася ўсё больш.




***Польскі фіят - 508***








***Мадыфікацыі фіята-508***

І гэта пры хуткасці на нашых тагачасных дарогах, пра якую кажа той факт, што 25 верасня 1929 г. аўтамабіль прэзідэнта Польшчы Масціцкага на шляху з Навагрудка ў Ліду суправаджаў эскадрон уланаў 25-га палка.

У лютым 1929 г. у Лідзе з'явіўся першы спецыялі-заваны аўтамабіль пажарнай аховы. А пры канцы 1937 г. Лідскі аддзел Чырвонага Крыжа атрымаў першы ў Лідзе санітарны аўтамабіль для перавозкі хворых.

У траўні 1938 г. лідскія паштавікі атрымалі 5 аўтамабіляў маркі "Польскі фіят".

Паміж 1934 і 1936 г. свой стары "Аўэрлэнд" на новы "Польскі фіят" змяніла ўдава генерала Кіпрыяна Кандратовіча Ада.

Вось як прафесар Ірэна Стасевіч-Ясюкова, дачка лідскага павятовага доктара, якая жыла ў доме па сучаснай вуліцы 7-га Лістапада д. 4, успамінала пра аўтамабіль сваёй сям'і: *"Праца павятовага лекара [...] была цяжкая і знясільвальная, але праз некалькі гадоў бацькі набылі аўтамабіль; выязджалі з шафёрам (бацька не навучыўся кіраваць гэтым новым набыткам тэхнікі) у нядзелю на возера, часам у кампаніі знаёмых"*. Ужо ў сталым узросце Ірэна Стасевіч-Ясюкова зноў убачыла дом свайго бацькі, дом свайго дзяцінства: *"Усё захавалася ў выдатным стане, у ідэальным парадку, як бы час затрымаўся на месцы. На падворку гараж для аўтамабіля, які запрашаў у нядзельныя выезды на Нёман; асфальтавы пад'езд да гаража, на якім мы гулялі ў мяч або ў гульню "ў класы" з нарысованымі крэйдай небам і пеклам"*. Праходзячы каля гэтага дома, я заўсёды гляджу на той гараж з вузкімі, якраз для "Фіята 508", варотамі.

Транспарту было няшмат, удзельнікі дарожнага руху не мелі добрай падрыхтоўкі, да таго ж амаль што не было кантролю паліцыі за дарожным рухам. Верагодна, таму паводзіны ўдзельнікаў дарожнага руху вызначаліся дрэнным выкананнем правіл: *"Калі вы ездзілі аўтамабілем на нашых дарогах, дык ведаеце... як ігнаруюць усе правілы дарожнага руху вясковыя вазы. Таму з поўным разуменнем мы аднесліся да акцыі лідскага старостава, якое звярнула пільную ўвагу на ўпарадкаванне руху на*




***Паштовы фіят***

*публічных дарогах. 12 ліпеня 1937 г. на галоўных дарогах каля Ліды была арганізавана аблава на "карсараў дарог", кіраваў аблавай сам стараста Міклашэўскі. Рэферэнт бяспекі ў старостве, маёр Арлоўскі, павятовы інжынер Дамброўскі, кіраўнік камісарыяту паліцыі Акаловіч на працягу некалькіх гадзін кантралявалі рух фурманак і аўтатранспарту на публічных дарогах. У выніку за парушэнні яны пакаралі 145 чалавек (за парушэнні правіл руху, адсутнасць нумароў, няправільную вупраж каня і г.д.). Таксама былі пакараны 40 шафёраў перапоўненых аўтобусаў".*

У другой палове 1930-х гг. кардынальна змянілася стаўленне самых шырокіх слаёў насельніцтва да аўтамабіляў. Аўтамабіль стаў сімвалам тэхнічнага прагрэсу, а развіццё аўтамабілізацыі - сімвалам сацыяльнага прагрэсу, і таму ў 1937 г. з ініцыятывы дырэктара Купецкай гімназі піяраў Генрыка Жалігоўскага ў гімназіі паўстаў гурток аўтааматараў. У гурток запісалася каля 50 вучняў і некалькі настаўнікаў. У гуртку вывучалася канструкцыя аўтамабіля і атрымліваліся практычныя навыкі кіравання. Настаўніца Купецкай гімназіі Яўгенія Багуцкая першай сярод вучняў і настаўнікаў здала экзамены і атрымала аўтамабільныя правы.




***Рэклама фіята-508 у тагачаснай віленскай прэсе, кошт 4950 зл.***

У траўні 1938 г. Лідскі маторны клуб на агульным сходзе вырашыў пачаць будоўлю станцыі тэхабслугоўвання аўтамабіляў: *"Ліда да гэтага часу не мае станцыі тэхабслугоўвання. У кожным выпадку нават малой паломкі трэба ехаць у Вільню. Лідскі маторны клуб спадзяецца на фінансавую дапамогу самакіравання горада"*, - паведамляла прэса.

Пры канцы 1936 г. у Лідскім павеце было 27 асабістых аўтамабіляў, 4 грузавыя аўтамабілі, 6 аўтобусаў, 28 матацыклаў - разам 67 механічных транспартных сродкаў: *"Ступень матарызацыі Лідскага павета ў Наваградскім ваяводства знаходзіцца на другім месцы, першае месца займае Баранавіцкі павет, які мае 95 механічных транспартных сродкаў, на апошнім месцы - Стаўпецкі павет, дзе ёсць толькі 16 машын (з іх 5 матацыклаў)"*, - пісала віленская газета "Слова". Спіс ўсяго матарызаванага цывільнага транспарту на Лідчыне ў 1936 г., падаю у канцы артыкула.

А зараз паглядзім, як фінансава цяжка ў тыя часы ў Заходняй Беларусі было ўтрымліваць аўтамабіль тым шчаслівчыкам, якія яго мелі.

Калі б можна было спытаць у тагачаснага лідскага аўтаўладальніка (які па азначэнні быў чалавекам не бедным), чаму ў нашым горадзе так мала аўтамабіляў, кожны аўтааматар адказаў бы адразу: "Бо кошт утрымання аўтамабіля вельмі вялікі". І змог бы падмацаваць свой адказ рахункам. За аснову для разлікаў аўтааматар узяў бы тагачасны самы танны легкавы аўтамабіль, які можна было свабодна купіць, а менавіта мадэль польскага фіата, так званую "пяцісотку" ці Polski Fiat 508 у розных мадыфікацыях. Трэба заўважыць, што кошт гэтага аўтамабіля амаль не адрозніваўся ад яго кошту на знешнім рынку, тады гэты аўтамабіль каштаваў 5400 злотых (самы танны з мінімальнай камплектацыяй рэкламаваўся за 4950 злотых) і столькі ж, крыху менш ці крыху больш, гэта мадэль каштавала ў тагачасных Італіі, Германіі і Францыі.

З прэсы 1930-х гг.[1], даведваемся, што жыццё тагачаснага аўтамабіля пры прабегу 15 000 км у год, складала 5 гадоў - як бачым, рэсурс быў зусім невялікі. Пасля 5 гадоў эксплуатацыі, аўтамабіль можна было прадаць за тыя самыя грошы, якія былі патрачаны на яго эксплуатацыю на працягу гэтага часу. Таму, каб кожныя 5 гадоў купляць новы фіят, трэба было адкладаць на новы аўтамабіль прыкладна 1000 злотых у год.

Пры гэтым, на працягу 5 гадоў трэба было купіць два камплекты шын, гэта значыць 8 шын і не менш за 16 камер. Самая танная шына для гэтага фіята каштавала тады 70 злотых, а камера - 10 злотых, разам - 720 злотых ці 144 злотыя ў год.

Самая танная цана за гараж, абслугоўванне і змазачныя матэрыялы - 50 злотых у месяц, за 5 гадоў гэта

[1] Гл. напрыклад: Stanisdaw Horwat. Ile kosztuje w Polsce utrzymanie samochodu? // Sdowo. 1935. № 195.





Na bezdroża CHEVROLET!

W Jeździe Terenowej, organizowanej przez Automobilklub Polski w ciężkich błotnisto—piaszczystych partiach Puszczy Kampinoskiej, CHEVROLET kierowany przez A. Mazurka wykazał, że jest w Polsce bezkonkurencyjnym wozem na bezdroża.

I MIEJSCE W KLASYFIKACJI OGÓLNEJ

- Rekord 121 km trasy — przeciętna 64.2 km/godz. (następny zawodnik 46 km/godz.)
- Rekord odcinka gruntowego — 54.5 km/godz. (następny zawodnik 40 km/godz.)
- Rekord próby szybkości i zawracania na piasku 70 sek. (następny zawodnik 97 sek.)

Cena od zł. 7.640 -

MONTOWANE W ZAKŁADACH LILPOP, RAU i LOEWENSTEIN S. A. WARSZAWA, LICENCJA GENERAL MOTOR

WYŁĄCZNA SPRZEDAŻ

AUTO-GARAŻE

Tel. 17-52 Wilno, ul. TATARSKA 3 Tel. 17-52

***Рэклама "Шэўрале" у тагачаснай віленскай прэсе, кошт 7640 зл.***

складала 600 злотых.

Дробны рамонт, замена некаторых дробных дэталяў, якія хутка зношваюцца, і розныя малыя выдаткі на ліквідацыю няспраўнасцяў - не менш за 20 злотых штомесяц ці 240 злотых у год.

Падатак на аўтамабіль складаў 42 злотыя ў год, а разам з выдаткамі на рэгістрацыю і штогадовае падаўжэнне рэгістрацыйных дакументаў, якое тады патрабавалася, яшчэ 60 злотых у год.

Усе гэтыя фіксаваныя выдаткі цалкам не залежалі ад колькасці пройдзеных кіламетраў. Адсюль, у штогадовым вымярэнні:

- кошт пакупкі аўтамабіля 1100 злотых у разбіўцы на 5 гадоў;
- гума 144 злотыя;
- гараж і абслугоўванне 600 злотых;
- дробны рамонт 240 злотых;
- падаткі і зборы 60 злотых.

Разам: 2144 злотыя ў год.

Другі артыкул выдаткаў - выдаткі, якія залежаць ад прабегу аўтамабіля. Яны складаюцца з выдаткаў на бензін і маторны алей. Маленькі польскі фіят спажываў у сярэднім 8 літраў на 100 км бензіну і 3 літры алею на 2500 км, бензін каштаваў 70 грошаў за літр, алей - 4 злотыя за літр. Пры прабегу 15000 км штогод, пайшло б 1200 літраў бензіну і 18 літраў маторнага алею - агулам 912 злотых.

Агульныя сумарныя штогадовыя выдаткі складалі б прыкладна 3060 злотых у год, ці 250 злотых у месяц.

Праз пяць гадоў за старую машыну можна было атрымаць 800 ці можа нават і 1000 злотых, але прынамсі столькі ж трэба было выдаткаваць на капітальны рамонт фіята на трэці год эксплуатацыі, гэтыя грошы кампенсуюць адны адных і могуць быць выдалены з уліковай сумы.

Такім чынам, мы бачым, што ўтрыманне самага таннага ў той час аўтамабіля абыходзілася амаль што ў 300 злотых у месяц.

І вельмі мала было людзей, якія маглі б выдаткаваць 300 злотых у месяц на задавальненне ад валодання аўтамабілем.

Трэба заўважыць, што калі кошт фіята - 5400 злотых - пакласці у банк, дык за пры тагачасных 5% можна было б атрымаць не менш за 1350 злотых на працягу 5 гадоў, г. зн. штогод з гэтай сумы можна было б мець 270 злотых прыбытку. У той час мала хто страхаваў аўтамабіль, аднак трэба ведаць, што страхоўка каштавала каля 500 злотых штогод.

У выпадку пакупкі больш вялікага аўтамабіля, напрыклад, форда, пры ўмове, што ён абышоўся б уладальніку бяспошлінна, трэба было б выдаткаваць каля 7000 злотых штогод. Штомесячны кошт з-за двайнога ў параўнанні з фіятам спажывання бензіну і алею, а таксама значна большы кошт гумы, тэхнічнага абслугоўвання і дробных выдаткаў, склаў бы мінімум 400 злотых штомесяц. Такія выдаткі мог сабе дазволіць толькі чалавек, які зарабляў не менш за 2000 злотых у месяц, а такіх людзей у той час было вельмі мала. Аўтамабільныя аглядальнікі лічылі, што ва ўсёй тагачаснай Польшчы мелася, можа, тысяча чалавек, якія могуць патраціць 400 злотых штомесяц на машыну, але не маглі ўжо дазволіць сабе 500 злотых. Таму, адзінай перашкодай для аўтамабілізацыі з'яўляўся выключна нізкі ўзровень даходаў насельніцтва.

Фіят не быў прыстасаваная для нашых тагачасных дарог, але, як пісалі адмыслоўцы, і ва ўсім свеце не было тады машыны для нашых дарог у катэгорыі 300 злотых у месяц, і таму гэтая мадэль не мела канкурэнтаў. Каля 60% тагачаснага еўрапейскага аўтапарку складалі менавіта аўтамабілі такога класу, але аўтааглядальнікі лічылі,

што з гэтымі аўто чалавек не мог спазнаць сапраўднай радасці ад аўтамабіля і яго настрой уздымала толькі тое, што праз год пасля пакупкі фіята, яго ўладальнік мог сказаць сабе: "Добра, што я не купіў Форд ці Шэўрале, з такім цмокам я б збанкрутаваў!".

Што за аўтамабіль быў гэты "Польскі фіят"?

Легкавы аўтамабіль "Фіят 508" выпускаўся кампаніяй "Fiat" з 1932 г. Аўтамабіль быў абсталяваны 3-ступеністай каробкай перадач (з 1934 г. - 4-ступеністай), рухавіком аб'ёмам 955 куб. см, магутнасцю ў 20-24 к. с. (мадэль 508 S ужо мела магутнасць 30-36 к. с.). Аўтамабіль развіваў хуткасць да 80 км/г. Даўжыню аўтамабіль меў 3,67 м, шырыню - 1,33 м, а важыў толькі 760 кг. Усяго ў Еўропе было выраблена каля 113 000 такіх аўтамабіляў, большая частка з якіх на заводзе CWS у Польшчы. "Фіят 508" таксама выпускаўся ў Францыі кампаніяй SAFAF пад назвай Simca-Fiat 6CV.

І пры канцы трошкі пра даходы простага чалавека ў нашым горадзе. У красавіку 1938 г. "Кур'ер Віленскі" пісаў: *"Заробкі рабочых у Лідзе наогул вельмі нізкія. Таму ўтрымліваць сям'ю, у якой працуе толькі адзін чалавек, які часта зарабляе меней за 2 злотыя ў дзень, надта цяжка"*. Сярэдні заробак у Заходняй Беларусі заставаўся ніжэйшым за заробкі ў заходняй частцы Польшчы.

Пры канцы 1930-х гг. у горадзе ўсталяваліся прыкладна такія цэны і заробкі: булка хлеба - каля 30 грошаў, 1 кг цукру - каля 1 злотага, 1 кг алею - 80 грошаў, 10 яйкаў - 10 грошаў, пачак запалак - 10 грошаў, 1 кг бульбы - каля 10 грошаў, мяса, ялавічына ці свініна - каля 1,5 злотых, малако - каля 20 грошаў за 1 л., вугаль каля 48 злотых за 1 т., мужчынская кашуля - каля 10 злотых, мужчынскі капялюш - каля 20 злотых, мужчынскія чаравікі - каля 15 злотых, цэгла - каля 40 злотых за 1000 шт., цэмент - каля 30 злотых за 1 т., друкарская машынка - 1 200 злотых, гектар зямлі каштаваў 500 злотых, карова - 100 злотых, пуд збожжа - 2 злотыя. Сярэдні дзённы заробак быў каля 2 - 3-х злотых, мінімальны - 1 злоты, высокі заробак - да 10 злотых. Кваліфікаваны рабочы на "Ардалі" атрымліваў 5 злотых, майстар - 10 злотых. На жніве ў дзень плацілі 2 злотыя, на копцы бульбы - 1 злоты. Зарплата настаўнікаў дасягала 200 злотых у месяц. Зразумела, што ніхто з гэтых людзей не мог нават марыць пра аўтамабіль.

Адначасова, напрыклад заробкі кіраўнікоў, адміністрацыі і працоўных заводакіравання "Ардаля" (абутковая фабрыка) пачыналіся ад 1 тысячы злотых у месяц. Гэтых людзей было мала, але якраз яны і маглі сабе дазволіць мець свой аўтамабіль.

## Спіс аўтамабіляў і матацыклаў у Лідскім павеце, на 15 снежня 1936 г.

| № | Рэгістрацыйны нумар | Від транспорту | Марка | Гаспадар | Месца знаходжання |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 79292 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Марачэўскі Уладзімір | Эйшышкі, Віленская 68 |
| 2 | 79062 | асабісты аўтамабіль | Ford | Палячак Макс | Ліда, Сувальская, 91 |
| 3 | 79192 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 83 |
| 4 | 79093 | асабісты аўтамабіль | Overland Whippet | Сацыяльнае забеспячэнне | Ліда, Сувальская, 83 |
| 5 | 79021 | асабісты аўтамабіль | Tatra | Лясковіч Вітольд | Маёнтак Філіпкі, Лідская гміна |
| 6 | 9544 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Жалігоўскі Генрык | Ліда, Шаптыцкага, 8 |
| 7 | 9530 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Кабылінкая Халіна | Маёнтак Гарадэнка, Жырмунская гміна |
| 8 | 79324 | асабісты аўтамабіль | Ford | Ю. Столе | Гута шкла Нёмана |
| 9 | 79316 | асабісты аўтамабіль | Ford | Грузель Раман | Нёман, Беліцкай гміны |
| 10 | 79310 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Грабоўскі Рудольф | Ліда, Сыракомлі, 2 |
| 11 | 9482 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Макарэвіч Уладзімір | Ліда, Бярозавая, 21 |
| 12 | 79352 | асабісты аўтамабіль | Steyer | Кіневіч Генрык | Маёнтак Больценікі, Беняконская гміна |
| 13 | 79134 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Ельская Яніна | Маёнтак і гміна Жырмуны |
| 14 | 79366 | асабісты аўтамабіль | Essex | Пупко Шымон | Ліда, Сувальская, 88 |
| 15 | 9550 | асабісты аўтамабіль | Studebaker | Ардаль | Ліда, Фабрычная, 8 |
| 16 | 9568 | асабісты аўтамабіль | Ford | Міцкевіч Станіслаў | Ліда, Варшаўская, 32 |
| 17 | 79249 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Заянчкоўская Аляксандра-Генаэфа | Ліда, Пілсудскага, 13 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 18 | 79373 | асабісты аўтамабіль | Ford | Галінскі Дамінік | Ліда, Мяніцкага, 5/14 |
| 19 | 9597 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Межва Ян | Ліда, Рынак, 3 |
| 20 | 9575 | асабісты аўтамабіль | Overland Whippet | Кузян Зоф’я | Маёнтак Кір'янаўцы, Лідская гміна |
| 21 | 79295 | асабісты аўтамабіль | Chevrolet | Якевіч Станіслаў | Ліда, Мацкевіча, 47 |
| 22 | 7939 | асабісты аўтамабіль | Polski Fiat | Кандратовіч Ада | Гародна, Жырмунская гміна |
| 23 | 401 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Равінскі Станіслаў | Ліда, Гарнянская, 19 |
| 24 | 7939 | асабісты аўтамабіль | Ford | Канаржэўскі Генрык | Ліда, Фалькоўскага, 19 |
| 25 | 79239 | асабісты аўтамабіль | Ford | Дамброўскі Антон | Ліда, Варшаўская, 24 |
| 26 | 79395 | асабісты аўтамабіль | Fiat | Краеўская Казіміра | Гута шкла “Нёман” |
| 27 | 9505 | асабісты аўтамабіль | Ford | Вольфганг Зыгмунт | Воранава, Лідскі павет |
| 28 | 79301 | грузавік | Chevrolet | Пупко Мейлах | Ліда, Сувальская (бровар) |
| 29 | 79312 | грузавік | Chevrolet | Зарэцкі Шлёма | Ліда, Фалькоўскага, 39 |
| 30 | 24884 | грузавік | Ford | Бінкевіч Пётр | Ліда, Сувальская, 127 |
| 31 | 7935 | грузавік | Chevrolet | Баркоўскі Міхал | Ліда, Сувалькая, 72 |
| 32 | 79135 | аўтобус | Chevrolet | Апановіч Невах | Беліца, Лідскі павет |
| 33 | 79177 | аўтобус | Chevrolet | Школа Купецкая а. Піяраў | Ліда, Сувальская, 68 |
| 34 | 79349 | аўтобус | Chevrolet | Пуйдак Вацлаў, Кругер Эдвард | Беліца, Лідскі павет |
| 35 | 79003 | аўтобус | Chevrolet | Кавальскі Берка | Радунь, Татарская, 3 |
| 36 | 79391 | аўтобус | Polski Fiat | Аўтобусны кааператыў "Лідзянка" | Ліда, Замкавая, 4 |
| 37 | 79260 | аўтобус | Studebaker | Вырваль Станіслаў | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 38 | 79226 | аўтобус | Chevrolet | Раманоўскі Юзаф | Ліда, Сувальская, 109 |
| 39 | 9416 | матацыкл | F.N. | Кс. Штэйн Чэслаў | Воранава, Лідскі павет |
| 40 | 24870 | матацыкл | Motocajer | Бердаўскі Гецель | Ліда, Мацкевіча, 39 |
| 41 | 9485 | матацыкл | Ariel | Антковяк Ян | Ліда, 77 п.п. |
| 42 | 24885 | матацыкл | Ariel | Бакавец Казімір | Ліда, 3-га Мая, 61 |
| 43 | 9547 | матацыкл | Norton | Даз Вільям | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 44 | 9590 | матацыкл | Sunbeam | Крыгель Юліюш | Ліда, Сувальская, 72 |
| 45 | 38717 | матацыкл | B.S.A. | Праўлоцкі Кейстут | Ліда, 11-га Лістапада, 4 |
| 46 | 9462 | матацыкл | Royal Enfield | Ненартовіч Ян | Ліда, 17-га Красавіка, 20 |
| 47 | 9503 | матацыкл | Ariel | Касоўскі Стэфан | Гута шкла “Нёман” |
| 48 | 38628 | матацыкл | Panther | Грэйцюн Уладзіслаў | Ліда, 77 п.п. |
| 49 | 9546 | матацыкл | B.S.A. | Курганоўскі Алексы | Ліда, Мацкевіча, 37 |
| 50 | 403 | матацыкл | Triumph | Рэцька Юзаф | Навапрудцы, Лідская гміна |
| 51 | 405 | матацыкл | B.S.A. | Тоцін Эдмунд | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 52 | 1253 | матацыкл | Niemen | Бердаўскі Гесель | Ліда, Мацкевіча, 39 |
| 53 | 1253 | матацыкл | Puch | Комінч Юзаф | Ліда, Лётная, 49 |
| 54 | 58918 | матацыкл | D.K.W. | Дзяркоўскі Францішак | Мыто, Васілішская гміна |
| 55 | 406 | матацыкл | Niemen | Ражанскі Ёсель | Ліда, Сувальская, 12 |
| 56 | 9445 | матацыкл | F.N. | Гаеўскі Вітольд | Ліда, 5-ты лётны полк |
| 57 | 9519 | матацыкл | F.N. | Дамброўскі Антон | Ліда, Варшаўская, 24 |
| 58 | 9584 | матацыкл | Royal Enfield | Галік Вацлаў | Ліда, Калонія дзяржаўных дамоў |
| 59 | 9405 | матацыкл | Gillet-Hestal | Гаюн Аркадзь | Ліда, Сасновая, 23 |
| 60 | 9571 | матацыкл з каляскай | Indian | Лявіцкі Александр | Ліда, Сыракомлі, 2 |
| 61 | 9437 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Казлоўскі Эдвард | Іўе, Лідскі павет |
| 62 | 9554 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Арлоўскі Міхал | Ліда, Малая Дварцовая, 14 |
| 63 | 9481 | матацыкл з каляскай | Matosacoche | Грывач Станіслаў | Ліда, 77 п.п. |
| 64 | 9471 | матацыкл з каляскай | B.S.A. | Лех Эдмунд | Эйшышкі, Вызвалення, 2 |
| 65 | 3085 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Ціхоўскі Юліян | Ліда, Фалькоўскага, 15 |
| 66 | 24877 | матацыкл з каляскай | Harley-Dawidson | Раткевіч Казімір | Ліда, Райская, 70 |
| 67 | 9425 | матацыкл з каляскай | Indian | Дварэцкі Мойша | Ліда, Камерцыйная, 1 |

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Бясконцы працэс, шмат імёнаў: Блікер, Бурэ, Грынкевіч, Кальцоў, Мякота, Новік, Саўчанка, Шадура, Якушава*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-13 (105-117) за 2024 г.)*

**БЛІКЕР Соня** (2) - першыя выпіскі па гэтай адной з самых выдатных нашых персаналій мы зрабілі яшчэ ў красавіку 1986 г., і гэта была першая вядомая нам ураджэнка Беларусі, якая ўдзельнічала ў Міжнародным кангрэсе амерыканістаў. 39-ты адбыўся ў Ліме 2-9.08.1970 г. Яе прысутнасць на кангрэсе зафіксавана ў зборніку "Actas y Memorias del XXXIX Congreso Internacional de Americanistas" у 6 т.: "Bleeker Zim, Sonia".

Распачаў як старшыня ўрачыстую інаўгурацыйную сесію кангрэса доктар Хасэ Матас Мар (ад якога мы мелі ліст і матэрыялы ў 1991 г., калі ён быў дырэктарам Міжамерыканскага індзейскага інстытута).

Удзельнікі звярнуліся да аўдыторыі ў сваіх інаўгурацыйных выступленнях і на некаторых менш распаўсюджаных у свеце еўрапейскіх мовах, а доктар Оскар Нуньес дэль Прада (Oscar Nunez del Prado) - ушанаваў кечуа:

*"Lluy Yachaywasi Kamayoq Kuraq Wamink'a Alfredo Arrisueno:*

*Llaqtavkid ancha yupaychasqan Hatun Hamaut'a Luis E. Valcarcel:*

*Qhepa winay hamaut' akunaq Qollanan Jose Matos Mar:*

*Kay Hatun Hunukiy Kamayoqkuna:*

*America Ancha Khuyaq runskuna:*

*Kay hatun hunukuyman mink'asquen, kusi sonqo ullphurimunkichis, wasikischista saqespa, llaqtaykichista kharunchaspa. Oanchis hunu runa simi rimaqpa sutimpin allin hampuyta haywariykichis. Kay naupa Tawantinsuyo, junan t'ikareq mosoq Peru runakunan, sonqonta mast'arispa, rijranta kicharispa, qasqonman ma'iykuyta munasunk ichis.*

*Hauka k'irakuychis vachavnikichista t'akarispa,*

de Grummond Collection — May 27, 1992
The University of Southern Mississippi — Gomel
McLain Library and Archives
Southern Station
Box 5148
Hattiesburg, MS 39406-5148

Dear Sirs:
We study the life and work of Sonia Bleeker, a Byelorussian-born American author of books on Indians.
We are advised to contact you for some bio-bibliographical information. We are interested in your Sonia Bleeker material.
What is the de Grummond Collection as a whole?
How many S. Bleeker manuscripts and published copies do you have? We look for copies to translate them into Byelorussian. I am afraid it is difficult to obtain these books even in the USA at present (there are only 2 titles in the libraries of the CIS). Do you exchange or sell your copies (or keep them for yourselves and the public only)?
Is there the coordinator (a center, collection or librarian) for all the materials of Dr. Bleeker? Do you know the addresses of other collections in which are the manuscripts of Sonia Bleeker?
Thank you very much.
Sincerely, (Mr.) Ales Simakou
Byelorussian-American Indian Society
P.O. Box 114, Gomel 246049, Belarus

***Letter to de Grummond Collection, University of Southern Mississippi (Hattiesburg, MS) 1992-05-27***



University of Southern Mississippi
Southern Station, Box 5148
Hattiesburg, Mississippi
39401 — D-1092
October 25, 1978

Librarian
de Grummond Collection

I. Sonia Bleeker (Zim) materials:
(1) THE MASAI - Herders of East Africa, by Sonia Bleeker. Illus. by Kisa N. Sasaki. Morrow, 1963.
56-p. manuscript ("contains expert's notes in blue & red pencil"), background notes & material (35 p.)
(2) THE NAVAJO - Herders, Weavers, and Silversmiths, by Sonia Bleeker. Illus. by Patricia Boodell. Morrow, 1958.
manuscript (65 pages), galleys
(3) THE ZULU OF SOUTH AFRICA - Cattlemen, Farmers, and Warriors, by Sonia Bleeker. Illus. by Kisa N. Sasaki. Morrow, 1970.
244-p. various manuscripts, galleys, notes, references, notes from expert, source material (including xeroxed photos, maps, newspaper clippings)

III. 21 Sonia Bleeker published copies, William Morrow Books:
(1) THE APACHE INDIANS (1951)
(2) THE ASHANTI OF GHANA (1966)
(3) THE AZTEC INDIANS OF MEXICO (1963)
(4) THE CHEROKEE - Indians of the Mountains (1952)
(5) THE CHIPPEWA INDIANS - Rice Gatherers of the Great Lakes (1955)
(6) THE CROW INDIANS - Hunters of the Northern Plains (1953)
(7) THE DELAWARE INDIANS - Eastern Fishermen and Farmers (1969)
(8) THE ESKIMO - Arctic Hunters and Trappers (1959)
(9) HORSEMEN OF THE WESTERN PLATEAUS - The Nez Perce Indians (1957)
(10) THE IBO OF BIAFRA (1969)
(11) THE INCA - Indians of the Andes (1960)
(12) INDIANS OF THE LONGHOUSE - The Story of the Iroquois (1950)
(13) THE MASAI - Herders of East Africa (1963)
(14) THE MAYA - Indians of Central America - (1961)
(15) THE MISSION INDIANS OF CALIFORNIA - (1956)
(16) THE NAVAJO - herders, weavers, and silversmiths (1958)
(17) THE PYGMIES - Africans of the Congo Forest (1968)
(18) THE SEMINOLE INDIANS (1954)
(19) THE SIOUX INDIANS - Hunters and Warriors of the Plains (1962)
(20) THE TUAREG - Nomads and Warriors of the Sahara (1964)
(21) THE ZULU OF SOUTHER AFRICA - Cattlemen, Farmers, and Warriors (1970)

NOTE: The address for this collection as of June 1988 is:
de Grummond Collection
The University of Southern Mississippi
McLain Library and Archives
Southern Station
Box 5148
Hattiesburg, MS 39406-5148

***From materials on Sonia Bleeker, a native on Belarus, received from Dee Jones, Curator, de Grummond Children's Literature Research Collection, McCain Library and Archives, University Libraries, University of Southern Mississippi on 1992-09-14***







University of Southern Mississippi
Southern Station, Box 5148
Hattiesburg, Mississippi
39401
D-1092

Library

Page 2 October 25, 1978

Bleeker, Sonia

This is to certify that Herbert S. Zim has contributed the following materials evaluated at ( ) to our Special Children's Collection.

III. 21 Sonia Bleeker published copies, William Morrow Books:
(1) THE APACHE INDIANS (1951)
(2) THE ASHANTI OF GHANA (1966)
(3) THE AZTEC INDIANS OF MEXICO (1963)
(4) THE CHEROKEE - Indians of the Mountains (1952)
(5) THE CHIPPEWA INDIANS - Rice Gatherers of the Great Lakes (1955)
(6) THE CROW INDIANS - Hunters of the Northern Plains (1953)
(7) THE DELAWARE INDIANS - Eastern Fishermen and Farmers (1969)
(8) THE ESKIMO - Arctic Hunters and Trappers (1959)
(9) HORSEMEN OF THE WESTERN PLATEAUS - The Nez Perce Indians (1957)
(10) THE IBO OF BIAFRA (1969)
(11) THE INCA - Indians of the Andes (1960)
(12) INDIANS OF THE LONGHOUSE - The Story of the Iroquois (1950)
(13) THE MASAI - Herders of East Africa (1963)
(14) THE MAYA - Indians of Central America - (1961)
(15) THE MISSION INDIANS OF CALIFORNIA - (1956)
(16) THE NAVAJO - herders, weavers, and silversmiths (1958)
(17) THE PIGMIES - Africans of the Congo Forest (1968)
(18) THE SEMINOLE INDIANS (1954)
(19) THE SIOUX INDIANS - Hunters and Warriors of the Plains (1962)
(20) THE TUAREG - Nomads and Warriors of the Sahara (1964)
(21) THE ZULU OF SOUTHER AFRICA - Cattlemen, Farmers, and Warriors (1970)

IV. Books written or edited by Herbert S. Zim - published copies:
18 Golden Guides, limp-bound, French editions: CUISINEZ VITE ET BIEN; COQUILLAGES Especes Du Monde Entier; ETOILES; FLEURS SAUVAGES; FOSSILES; GIBIERS D'EUROPE; INSECTES; JARDINS; OISEAUX D'EUROPE; PECHE EN MER; PHOTOGRAPHIE; REGNE ANIMAL; RIVAGES Flore et Faune Europeennes; RIVAGES D'EUROPE; ROCHES ET MINERAUX; SKI; VOITURES DE SPORT; YACHTING
8 Golden Guides, limp-bound, Dutch editions: FOSSIELEN; GESTEENTEN en MINERALEN; REPTIELEN EN AMFIBIEEN; STERRENWERELD; VISSEN; WEER; ZEEKUSTEN; ZOOGDIEREN,
6 Golden Guides, limp-bound foreign editions: REGNE ANIMAL; RIVAGES; ROCHES ET MINERAUX; YACHTING; ZEEKUSTEN; ZOOGDIEREN.
4 Golden Guides, Library-bound, Danish editions: INSEKTER; FORSTENINGER; KONKYLIER; MINERALER.
4 Harcourt-Brace Books, library editions: AIR NAVIGATION; PARACHUTES; ROCKETS AND JETS; SUBMARINES.
2 H. S. Zim professional bulletins: SCIENCE FOR CHILDREN AND TEACHERS; THIS IS SCIENCE.
3 Western Exploring Earth books: ROCKS AND MINERALS; REPTILES & AMPHIBIANS; INSECTS

***Sonia Bleeker (Zim) materials, de Grummond Collection, D-1092***

*chaymi allin muju hina, qhepa winay runaq sonqonman chayaspa llanllarinqa sumaq ruru rurunampaq. Kay qorpa sonqo Peru llaqtan, allin, kusi q'ocho karinaykichista munan.*

*Allin hampuyta ampuvchis.*

*Anaychaykichis".*

(Напэўна, гэта першы тэкст на мове кечуа, які з'яўляецца ў "Нашым слове").

Сярод фраз, якія дае нам кечуанска-беларускі пераклад Google Translate: *"Я запрашаю вас на гэты вялікі сход, і вы пакінеце свае дамы і сваю краіну. Ад імя ста чалавек Oanchis жадаю вам моцнага здароўя. Гэтыя старыя Тавантынсуё, новыя перуанцы, якія сёння квітнеюць, жадаюць адкрыць свае сэрцы, адкрыць рот і пацалаваць вас". "...гэта як добрае насенне, яно дасягне сэрца наступнага пакалення і прынясе добры плён. Гэты памежны цэнтр Перу жадае вам добрага, шчаслівага адпачынку". "Дзякуй, хлопцы".*

На кангрэсе прысутнічала шмат амерыканістаў з індзейскімі каранямі.

Найперш нашу ўвагу звярнуў Дэметрыа Рока Вальпарымачы (Demetrio Roca Wallparimachi). Калі ён памёр у 2017 г. ва ўзросце 90 гадоў, пра гэтага былога рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта Сан-Антоніа Абада ў Куска (Universidad Nacional de San Antonio Abad del Cusco)




***Envelope from Jessica Haile (assistant to Dr. H. S. Zim) l.d. 1991-12-16 (postal address: …Tavernier, FL; postmark Miami, FL 1991-12-17; received 1992-01-18***

напісалі, што яго прах *"пахаваны ва аўдыторыі ўніверсітэта"*. Пра гэта паведаміла яго дачка Андрэа, якая адзначыла, што яе бацька, які пры жыцці быў адным з самых вядомых фалькларыстаў краіны, памёр у доме, размешчаным на вуліцы Лукрэпата. У 2002 г. Міністэрства адукацыі надала яму ступень Амауты (el Grado de Amauta) - гэта найвышэйшая ўзнагарода, якую Міністэрства адукацыі прысуджае найбольш выдатным дзеячам у галіне адукацыі і навукі.

Не засталіся без увагі наступныя ўдзельнікі з Перу, прозвішчы якіх гучаць не па-еўрапейску: Caycho, Felix; Cayon Arnella, Edgardo; Mejia Xesspe, Toribio; Ore, Teobaldo T.; Rodriguez Suy Suy, Victor; Sivirichi Tapia, Atilio; Tapia, Carlos; Velez Chicata, Aldo; Chahud Gutierrez, Carlos; Chauco E., Bertha; Injoque, Mariluz; Quispe Mejia, Ulpiano; Quispe, Serapio.

У некралогу з "Маямі геральд" (16.11.1971), дасланым нам з ЗША ў выглядзе ксеракопіі, гаварылася: *"Будучы студэнткай, а пазней разам са сваім мужам, доктарам Гербертам Зімам, аўтарам больш, чым 100 кніг для моладзі, доктар Блікер шмат разоў перасякала Злучаныя Штаты, засяроджваючыся на індзейскіх раёнах, і наведала Канаду, Мексіку, Цэнтральную і Паўднёвую Амерыку, каб забяспечыць даследчым матэрыялам свае кнігі.*

*За апошнія гады яна здзейсніла некалькі паездак у Афрыку, каб даследаваць антрапалогію гэтага кантынента".*

У адрасе Зімаў (Цымаў), на які мы пісалі, - "Тавернье, Фларыда". Гэта *"адведзенае для перапісу месца і неінкарпараваная суполка"* ў акрузе Манро, на Кі-Ларга, найбуйнейшым востраве архіпелага Фларыда-Кіс. Але гэта быў толькі паштовы адрас, а Соня Блікер з сям'ёй жыла, як у раі, на востраве Плантэйшн-Кі гэтага каралавага архіпелага. Праўда, з 1958 г. яна хварэла на рак, а памерла праз год і некалькі месяцаў пасля паездкі на кангрэс у Ліму.

**Літ.:**

*7371 Sonia B. Zim, Author, at 61 (Deaths) // Miami Herald. 1971. Nov. 16. (PBX.)*

**БУРЭ Павел** (2) - 27.10.2004 г. мы пісалі нашаму сябру па перапісцы (які, у сваю чаргу, хацеў знайсці

